Са святам, слонімцы! З Раством Хрыстовым!

➔ 2

КОШТ 60 КАПЕЕК

9 771991 385001

ISSN 1991-3850

Агульнапалітычны штотыднёвік

Газета Слонімская

Упершыню выйшла ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

4 студзеня 2017 года №1 (1022)

# 2017 год сустрэлі

Вось і настаў год 2017. Штодня паступова, секунда за секундай, будзе павялічвацца дзень і час набліжацца да вясны. А там хутка лета, сонца болей і цяпла.

Вельмі хочацца спадзявацца, што новы год не будзе азмрочваць нас дрэннымі падзеямі, а, наадварот, будзе радаваць прыемнымі навінамі, ад якіх твары слонімцаў будуць свяціцца вось такімі ўсмешкі, што бачым на здымку гэтай дружнай сям`і. Фота гэтае зроблена падчас навагодняга свята, што адбылося ноччу 1 студзеня ля ёлкі на галоўнай плошчы горада.

Яўген ВАЛАДАШЧУК

ФОТА АЎТАРА




twitter.com/GazetaSlonim

facebook.com/gazeta.slonimskaya

ok.ru/gazeta.slonimskaya

vk.com/gazetaslonimskaya

instagram.com/gazeta_slonimskaya



## Алло, мы слушаем вас!

Уважаемые читатели, если вам есть что рассказать, если вы стали участником интересной истории или свидетелем важного для города события, необычного происшествия, напишите нам: г. Слоним, ул. Красноармейская, 41, mail: anna@gs.by или сообщите по тел. 8 01562-29-000, (8 029) 612-26-43.

## СА СВЯТАМ, СЛОНІМЦЫ! З РАСТВОМ ХРЫСТОВЫМ!



*Сёння хочацца ўсіх заклікаць пакланіцца Хрысту, каб плады Яго любові адчуваліся ў кожным доме, у кожнай сям`і. Вось гэтыя плады: любоў, радасць, мір, доўгацярплівасць, добрасць, міласэрнасць, вера, лагоднасць, устрыманасць.*

Кожны чалавек хоча любіць і быць любімым. Няхай жа гэтыя святыя дні Нараджэння Госпада ў плоці станyць для нас нагодай падзяліцца багаццем нашых душ з блізкімі. Няхай Віфлеемская зорка пакажа кожнаму з нас шлях да сэрцаў нашых родных і калег, нашых суседзяў, сяброў і ворагаў, бо там, у сэрцы, — Хрыстос Бог наш. Пакінем ранейшыя крыўды і горыч і накіруемся ў будучыню. Бо з намі Бог, Яму належаць і час, і прастора. Дзе Дух Яго любові, там і дом наш. «Хрыстос нараджаецца — слаўце! Хрыстос з нябёсаў — сустракайце! Хрыстос на зямлі — ўзносьцеся!»

**Благачынны Вадзім ПЯТЛІЦКІ**

## ПЕРВЫМ РОДИЛСЯ МАЛЬЧИК



*Новогодняя ночь в Слонимском роддоме была спокойной.*

Как стало известно корреспонденту «ГС», первым рожденным ребенком в 2017 году в Слониме стал мальчик, который появился на свет 1 января в 23.30, весом 2 950 г и ростом 51 см.

**Татьяна ПЛАХЕТКО**

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

# Алег Таргонскі: «Як бы, можа, каму ні хацелася, але так, як было раней, ужо не будзе»

## Старшыня Слонімскага райвыканкама Алег Таргонскі пагутарыў з журналістамі мясцовых СМІ

*Кіраўнік Слонімскага раёна Алег Таргонскі 29 снежня падвёў вынікі 2016 года і падзяліўся планамі ўладаў на 2017 год з журналістамі мясцовых газет і тэлебачання*



### Пра час і нас у эканоміцы

— Сёння мы падвядзём з вамі папярэднія вынікі адыходзячага года для Слонімшчыны, — пачаў размову старшыня. — 2016 год быў няпросты. Тым не менш з задавальненнем хачу адзначыць, што па многіх пазіцыях мы захавалі наступальны рух наперад, таксама па многіх пазіцыях засталіся на ўзроўні 2015 года.

Са станоўчага боку адзначу працу нашых прамысловых прадпрыемстваў. І наперадзе тут мясакамбінат. Адзначу таксама СКПЗ «Альбярцін», дзе прырост вытворчасці склаў 102-103% да ўзроўню мінулага года. Добра спрацаваў водаканал — прырост склаў 122-123%... Наогул па прамысловасці індэкс вытворчасці, фізічнага аб`ёму прадукцыі склаў 96,5-97% ад леташняга ўзроўню. У 2017 годзе плануем прырост вытворчасці прадукцыі на 3% ад узроўню 2016-га.

### Пра экспарт

Сёння мала выпусціць прадукцыю — важна яе прадаць. У гэтым годзе нашы тавары экспартаваліся ў 26 краін свету, летась — у 21 краіну. З гэтага года мы пачалі пастаўляць сваю прадукцыю у Аб`яднаныя Арабскія Эміраты, Пакістан, Грузію, Чэхію і Аўстрыю. Асабліва тут хачу адзначыць «Слоніммэблю». Гэтае прадпрыемства да 90% сваёй прадукцыі адпраўляе на экспарт. Сёлета яны асвоілі нават рынак Італіі — 40 камплектаў спальняў штомесяц пастаўляецца ў Італію. Пастаўляе сваю прадукцыю на экспарт і мясакамбінат, у асноўным у Кітай. Хоць вельмі няпроста было выйсці на замежныя рынкі, але яны гэта здзейснілі.

### Пра будаўніцтва, ЖКГ і добраўпарадкаванне

У нас здаецца каля 39 тысяч м кв. жылля: 144-кватэрны і 96-кватэрны дамы на праспекце Незалежнасці ды каля 24 тысяч м кв. — індывідуальнае будаўніцтва. Сёлетнія 39 тысяч м кв. жылля — такога за пяцігодку ў нас яшчэ не было.

У 2016 годзе аб`ядналі ЖКГ і ЖРЭА. Прайшло чатыры месяцы, і я бачу, што рашэнне па гэтым пытанні было правільным. Хаця да ЖКГ ёсць нараканні і пытанні ў людзей, але камунальная гаспадарка раёна працуе і ў цэлым спраўляецца са сваёй работай няdрэнна. У гэтым годзе капітальна адрамантаваны 21 дом. Гэта, на жаль, мала. У наступным годзе плануем адрамантаваць 23-24 дамы. Цеплавая рэабілітацыя і рамонт дахаў шматпавярховікаў патрабуюць укладання сур`ёзных сродкаў, але ў гэтым кірунку мы працуем і будзем працаваць.

У гарадскім парку да лета будуць усталяваны дзіцячыя арэлі і спортгарадок з трэнажорамі, падобны да таго, што ёсць ужо каля СШ №8. Мяркую, да 1 чэрвеня 2017 года парк прыме іншы выгляд.

### Пра водаканал

Галоўная праблема ў гаспадарцы водаканала — праблема ачышчальных збудаванняў. Архітэктурны праект па ачышчальных збудаваннях ужо ёсць, ён праходзіць экспертызу. Па папярэдніх падліках, на іх мадэрнізацыю спатрэбіцца ад 6,5 да 7 мільёнаў даляраў.

Другі праект, які рэалізуецца ў водаканале, усталяванне біягазавай установкі. Ён пачне рэалізоўвацца ўжо 3 студзеня 2017 года, а ўвод у эксплуатацыю запланаваны на чэрвень 2018 года. Гэты праект забяспечыць водаканал цепла- і электраэнергіяй ды дазволіць яшчэ і прадаваць яе насельніцтву.

Трэцяе, што плануецца ў водаканале ў наступным годзе, гэта разліў бутыляванай вады ў ёмістасці па 6 і 0,6 літра. Цяпер вада разліваецца толькі ў 17-літровыя бутлі.

### Пра культуру, спорт і адукацыю

Заканчваецца год культуры. Сёлета споўнілася 6 75 гадоў Уладзіміру Мулявіну. З гэтай нагоды памятныя мерапрыемствы прайшлі ў музычнай школе. У бібліятэках горада і раёна ладзіліся імпрэзы пра пісьменнікаў Кандрата Крапіву, Івана Шамякіна, Івана Мележа і нашага земляка Алега Лойку. Шмат прыемных момантаў падараваў нам ансамбль танца «Атланта», які ў пачатку года ў чэшскай Празе заняў першае месца на міжнародным фестывалі. Прыемна таксама, што наш зямляк спявак Ігар Дударчык увайшоў у склад легендарных «Песняроў».

У спорце варта адзначыць поспех на Алімпійскіх гульнях Івана Ціхана, удзел у гульнях Юліі Кароль. Нельга не ўзгадаць і юных спартсменаў Льва Марата, Сашу Сіняк, Ілью Шпака, якія выдатна выступалі сёлета ў сваіх відах спорту. Прыемна, што ў сталічнай камандзе «Цмокі» добра гуляе ў баскетбол Уладзіслаў Блізнюк з Новадзявяткавічаў... Наогул, спорт на Слонімшчыне развіваецца, і мы будзем і далей яго развіваць. Тут дастаткова для гэтага спартыўных аб`ектаў і пляцовак. У «Газеце Слонімскай» нядаўна прайшоў матэрыял пра тое, што ў Слоніме не хапае спецыялістаў па баскетболе. Аддзелу спорту ўжо дадзена адпаведнае даручэнне, і мы працуем у гэтым кірунку. Мяркую, вялікай праблемы тут няма, і калі дзеці хочуць займацца баскетболам, мы ў стане стварыць для гэтага адпаведныя ўмовы.

На Слонімшчыне сістэма адукацыі працуе добра. У нас, лічу, выдатныя педагогі. Пра гэта сведчыць удзел вучняў у алімпіядах на ўсіх узроўнях і высокі адсотак паступлення вучняў у вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы.

### Пра вёску і сельскую гаспадарку

У сельскай гаспадарцы ў нас шмат пытанняў, якія патрэбна вырашаць. Але яны ўзніклі не сёння, не раптам, а назапашваліся гадамі. Мы плануем выйсці на ўзровень 95,5-95% валавой прадукцыі ў гэтым годзе. На наступны год прынятае рашэнне па сельскай гаспадарцы раёна пра 106% прыросту прадукцыі.

Сёлета было нарыхтавана ў два разы болей, чым летась, сіласу і ў паўтара разу болей — сенажу. Летась надарылася вялікая засуха, і гэта балюча ўдарыла па жывёлагадоўлі раёна, кармоў не хапала, і давадзілася іх закупляць, а гэта лішнія расходы.

Наогул жа ў Слонімскім раёне патрэбна змяняць працу калі не 100% сельгаспрадпрыемстваў, то 80% дакладна, бо фінансавае становішча нашых гаспадарак не дазваляе працаваць высокатэхналагічна. Мы працуем па-старому і не ўмеем прадаваць сваю прадукцыю. Часам кульгае якасць. На малацэ, напрыклад, па якасці мы губляем вялікія грошы. Цяпер нашы гаспадаркі раёна не маюць ніякіх праблем са збытам — прыязджаюць спецыялізаваныя машыны, забіраюць малако, мяса. Але не за гарамі той час — фактычна ён ужо надышоў, калі пра збыт прадукцыі патрэбна думаць самім яе вытворцам. Сёння патрэбна разумець, што ва ўсіх сферах жыцця, і ў сельскай гаспадарцы таксама, як бы, можа, каму ні хацелася, але так, як было раней, ужо не будзе. Той стары савецкі час, калі ўсё падрабязна распланоўвалі далёка наперад і цэнтралізавана выконвалі, ужо не вернецца.

### Пра ахову здароўя

Да 7 студзеня 2017 года плануем цалкам увесці ў эксплуатацыю тэрапеўтычнае аддзяленне раённай бальніцы, якое рамантуецца з 2012 года, і рэнтгенкабінет у гарадской паліклініцы на Энцы.

ПРАЦЯГ НА СТАР. 5

**Курсы обмена валют** 9:00 3.01.17

| | | Беларусбанк | БПС-сбербанк | Белагропромбанк | Белгазпромбанк | Белинвестбанк | Приорбанк | Евроторгинвестбанк | Нацбанк РБ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| USD | покупка | 1,9480 | 1,9450 | 1,9650 | 1,9480 | 1,9440 | 1,9500 | 1,9350 | 1,96 |
| | продажа | 1,9680 | 1,9800 | 1,9870 | 1,9730 | 1,9690 | 1,9750 | 1,9700 | |
| EURO | покупка | 2,0400 | 2,0370 | 2,0580 | 2,0400 | 2,0300 | 2,0430 | 1,9900 | 2,05 |
| | продажа | 2,0700 | 2,0770 | 2,0800 | 2,0850 | 2,0600 | 2,0750 | 2,0750 | |
| 10 ZL | покупка | 4,5680 | | 4,4600 | 4,0500 | 3,7000 | | | 4,65 |
| | продажа | 4,7180 | | 4,7000 | | 4,6500 | | | |
| 100 RUR | покупка | 3,1700 | 3,1500 | 3,1700 | 3,1200 | 3,1500 | 3, 1200 | 2,9400 | 3,24 |
| | продажа | 3,2500 | 3,2400 | 3,2270 | 3,2500 | 3,2400 | 3,2900 | 3,2200 | |



СЛОНИМСКОЕ ЗАКУЛИСЬЕ

# 30 лет не знает ремонта закоулок на Тополёвой улице

*Улица Тополевая довольно известна в Слониме. Кроме жилых кварталов, на ней имеется овощехранилище, социально-педагогический центр, ясли-сад, магазины, рынок «Наш край» и прочее. Однако жилые дворы, которые застраивались более 30 лет назад, теперь находятся в состоянии «как после бомбежки». Жильцы, обратившие внимание корреспондента «ГС» на состояние пролегающих здесь дорог, надеются, что хотя бы в новом году их дворы включат в план благоустройства города.*


*С этой лестницы вприпрыжку не спустятся даже дети*


*Во дворе дома №33 смотреть нужно только под ноги*


*Вымываются корни деревьев*

И действительно, если идти со стороны магазина «Корзинка» в направлении на юго-запад, то по сторонам лучше не засматриваться. Кроме ям и выбоин во дворе, которые грозят падением невнимательному пешеходу, впереди ожидается крутой спуск с горы, красноречиво прозванной местными жителями «картофлянка». Кстати, большую площадь в этом квартале занимает овощехранилище. О его днях древних говорит проржавевшее ограждение из каркасов железных ящиков. Но как бы стрёмно ограждение ни выглядело, видно, что оно надежно.

Как на ладони предстаёт с горы картина убогого двора. По рассказам жителей, этот квартал за последние два-три года помолодел. Растет новое поколение, и летом здесь очень много детишек.

Чтобы спуститься с этой «картофлянки» в следующий двор, предстоит быть не менее внимательным, поскольку крутой горе сопутствует не менее крутая громадная лестница. Благо есть поручень, который подстраховывает спуск и подъем человека по сбитым ступеням. Рядом с этой лестницей проложили другую, сточную лесенку. Этот сток стекает по проезжей части.

На самой горе так же неприглядно торчат вымытые дождем корневища деревьев, на виду — отопительные трубы, которым явно нужна техническая доработка.

Кто-то заметил: «Вот если бы жил в нашем районе какой-нибудь чиновник, давно бы порядок навели». Тем не менее большинство жителей надеются, что в новом году эта улица преобразится.

**Алёна АЛЬКО**
ФОТО АВТОРА


*Больше фото смотрите на сайте www.gs.by*

**Больше материалов и фото смотрите на нашем сайте WWW.GS.BY**

ОПРОС

## ЧТО ВЫ ОЖИДАЕТЕ ОТ 2017 ГОДА?

**Вадим:**



— Прежде всего, надеюсь, что в 2017 году будет лучше, чем было в 2016-м, а все плохое остается в году минувшем.

**Оксана:**



— Ожидаю от нового календарного года только все самое хорошее и желаю, чтобы все были счастливы.

**Алексей:**



— От нового года я жду, прежде всего, перемен.

**Мария:**



— Для всех людей в 2017-м жду всего наилучшего, а сама лично живу надеждой, что смогу продолжить учебу в вузе.

**Николай:**



— Надеюсь, что в 2017 году будет прибавление в зарплате, постоянно будет работа, а то в 2016 году было тяжеловато с этим. Также жду благоустройства, чтобы в городе стало еще красивее, чем есть сейчас.

**Нина:**



— Я ожидаю мира и счастья в новом году.

**Никита ПАСТУХОВ**
ФОТО АВТОРА

## З АЎКЦЫЁНУ БУДУЦЬ ПРАДАВАЦЬ ЗЯМЕЛЬНЫЯ ЎЧАСТКІ

*Слонімскі райвыканкам на сваім сайце паведамляе пра правядзенне ў 2017 годзе аўкцыёну па продажы права арэнды зямельных участкаў і продажы зямельных участкаў у прыватную ўласнасць.*

На запланаваным сёлета аўкцыёне па продажы права арэнды зямельных участкаў будуць выстаўлены тры ўчасткі.

У прыватнасці, на вуліцы Косаўскі тракт можна будзе набыць зямельны ўчастак для будаўніцтва і абслугоўвання бесконтактнай мыйкі.

На вуліцы Міцкевіча зямельны ўчастак з аўкцыёну можна купіць для будаўніцтва гандлёвага павільёна.

На набытым участку на вуліцы Паўднёвай, 40а трэба будзе пабудаваць і абслугоўваць магазін.

Тэрмін арэнды такіх ўчасткаў складае 20 гадоў.

На аўкцыёне па продажы ўчасткаў у прыватную ўласнасць для будаўніцтва аднакватэрнага жылога дома будуць прадаваць два ўчасткі — у 5-м Косаўскім завулку, 7 і на вуліцы Сасновай, 2Б.

Дата правядзення аўкцыёну пакуль не паведамляецца.

**Жанна ІВАНОВА**

# Слонимский учитель собирается отстаивать свои права в суде


Алесь Масюк

Слонимчанин Алесь Масюк два месяца занят поиском работы. Напомним, что ранее он работал педагогом в Слонимском районном центре детско-юношеского туризма (ЦДЮТ), где учил школьников основам туризм. Его уволили после поездки в Норвегию. Директор учебного заведения, в котором работал Алесь, не подписала его заявление о предоставлении социального отпуска без сохранения заработной платы, а затем уволила за прогул. Хотя почти за восемь лет работы нареканий в адрес педагога не было. Значит, можно было к учителю применить другую меру наказания. Но руководству, видимо, было выгодно уволить учителя, чтобы избавиться от «головной боли». Кому нужны люди, которые имеют свое мнение, отличающиеся от принципов и идей государственной идеологии?

Алесь зарегистрировался в управлении по труду, занятости и социальной защите Слонимского райисполкома, где ему предлагают вакансии, но руководители этих учреждений не хотят заключать с ним трудовой договор.

— Я был уже в десяти организациях и везде получил необоснованные отказы. В центре занятости мне выдали 10 направлений на работу, и в большинстве случаев мне было отказано в трудоустройстве по надуманным причинам. Например, 11 ноября мне предложили работу в ГУО «Слонимский районный экологический центр детей и молодежи» в качестве педагога дополнительного образования. И я отправился в эту организацию, но директор меня не взяла в связи с тем, что с последнего места работы я был уволен за совершенные прогулы без уважительных причин. Мне предлагались и другие варианты трудоустройства, однако я пока получаю только отказы, — поведал о своей проблеме безработный отец двоих несовершеннолетних детей.

> *Алесь зарегистрировался в управлении по труду, занятости и социальной защите Слонимского райисполкома, где ему предлагают вакансии, но руководители этих учреждений не хотят заключать с ним трудовой договор.*

Со своей проблемой безработный педагог обратился в прокуратуру, а прокурор переслал его обращение в Новогрудский межрайонный отдел Гродненского областного управления Департамента государственной инспекции труда Министерства труда и социальной защиты Республики Беларусь, где ему предложили обратиться в суд.

В Слонимском райисполкоме Алесю Масюку пообещали помочь в трудоустройстве. «В настоящее время вакансии для Вашего трудоустройства на постоянное место работы отсутствуют. В случае возникновения возможности трудоустройства на постоянную работу Вам будет сразу же сообщено по телефону», — такой ответ Алесь получил из райисполкома.

На сайте управления труда, занятости и социальной защиты Слонимского райисполкома находится несколько вакантных мест социального педагога, методиста и др. Во всех этих организациях Алесь был, но никто из руководителей не пожелал видеть общественного активиста в рядах своего коллектива, везде ему отказывали в трудоустройстве после согласования с местным отделом образования.

Корреспондент решила сама «устроиться» в эти организации, предварительно позвонив по телефону и представившись педагогом. После звонков убедилась, что эти места вакантны, и руководители согласны были со мной встретиться, чтобы обговорить моменты трудоустройства. Этот факт еще раз подтверждает то, что Алеся уволили по политическим мотивам.

Алесь Масюк за помощью в трудоустройстве обращался к председателю Слонимского райисполкома, в прокуратуру, но никто не помог ему в решении проблемы. Только на словах государственные мужи работают на благо народа. Эта ситуация служит ярким примером того, насколько человек «защищен» в нашем государстве.

— Не понимаю, почему мне отказывают в праве на работу. Ведь даже человека, вышедшего из тюрьмы, обязаны трудоустроить, чтобы он мог адаптироваться в обществе после освобождения. Также в обязательном порядке трудоустраивают родителей, лишённых родительских прав. А я хочу работать, и вакансии есть, но меня почему-то не хотят брать на работу, — говорит Алесь.

Алесь обратился в суд, он просит признать незаконным отказ ГУО «Слонимский районный экологический центр детей и молодежи» заключить с ним трудовой договор по направлению упр авления труда, занятости и социальной защиты Слонимского райисполкома.

Какое решение примет суд, узнаем позже.

**Анна ВОЛОДАЩУК**

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

# Алег Таргонскі:
# «Як бы, можа, каму ні хацелася, але так, як было раней, ужо не будзе»

## Старшыня Слонімскага райвыканкама Алег Таргонскі пагутарыў з журналістамі мясцовых СМІ

ПРАЦЯГ. ПАЧАТАК НА СТАР. 2


Жыровіцкі манастырскі комплекс

### Пытанні і адказы

Пасля свайго выступлення старшыня райвыканкама прапанаваў журналістам задаваць яму пытанні па ўсіх кірунках. Ад трох прадстаўнікоў прэсы прагучала больш за дзясятак пытанняў. Самыя, на наш погляд, цікавыя мы прапануем вашай увазе.

**— Чаму слонімскія прадпрыемствы адыходзяць да суседзяў?**

— Вінна-гарэлачнае прадпрыемствы, малочнае, ільнозавод, як я разумею, маюцца на ўвазе. Малаказавод ужо даўнавата аб`ядналі са шчучынскім прадпрыемствам, і Слонімскі цэх сёння нармальна працуе. Разбярэм сітуацыю на льно- і вінзаводзе.

У перапрацоўцы льну вырашылі з шасці льнозаводаў у краіне мадэрнізаваць і пакінуць тры прадпрыемствы. Таму што па старых тэхналогіях далей працаваць было ўжо немагчыма. Былі льнозаводы ў Смаргоні, Ашмянах, Карэлічах, Лідзе, Дварцы і Слоніме, засталіся ў Карэлічах, Дварцы і Ашмянах. У Дварцы завод мадэрнізавалі, а ў Слоніме — не. Але працоўны калектыў не звольнены, людзі засталіся працаваць.

Што да вінна-гарэлачнага завода. У яго таварным складніку амаль 50% займаюць пладова-ягадныя віны, 16-17% — канькякі і 12% — гарэлка. Але не запатрабаваныя сёння ў такой колькасці пладова-ягадныя віны, выпуск якіх вырашана мінімізаваць па ўсёй краіне. А для вытворчасці гарэлкі ў Слоніме няма свайго спірту. Патрэбны для вырабу гарэлкі спірт цяпер купляем у Парэччы, а гэта значна павышае сабекошт прадукцыі. А вось у Дзятлаве патрэбны спірт якраз вырабляюць. Таму і далучаецца наш завод да дзятлаўскага.

У прэсе прагучала думка, што з пераходам прадпрыемстваў да суседзяў Слонім губляе падаткі. Тлумачу, каб было зразумела: з чатырох асноўных падаткаў толькі акцызны збор ідзе ў рэспубліканскі бюджэт. Зямельны падатак, падатак на нерухомасць, падатак на дабаўленую вартасць застаюцца ў бюджэце Слонімскага раёна. Падатку з прыбытку не паступала, бо ў 2015 годзе прыбытку не было, сёлета чакаецца невялікі прыбытак. Усе працоўныя месцы на вінзаводзе пасля рэарганізацыі будуць захаваны. Чакаюцца толькі ракіроўкі спецыялістаў на кіроўных пасадах.

**— Якія інвестыцыйныя праекты рэалізоўваюцца сёлета і якія інвестыцыі ў эканоміку раёна чакаюцца ў наступным годзе?**

— Самы вялікі інвестпраект, які рэалізоўваецца цяпер дацкай фірмай, гэта будаўніцтва свінагадоўчага комплексу «Белдан» ля вёскі Шыганы. Кошт праекта 33 млн. еўра. Ён будзе складацца з васьмі будынкаў. Практычна ўсе яны ўжо пабудаваны. Да аб`екта падведзены газ, вада і падключана электрычнасць па часовай схеме. У першым квартале 2017 года плануецца запоўніць два будынкі комплексу, адкуль у наступным годзе будзе ўжо пастаўпаць свініна перапрацоўшчыкам. Каля 80 чалавек будуць працаўладкаваны туды пасля ўводу комплексу ў эксплуатацыю.

Другі інвестпраект, які будзе рэалізаваны ў 2017 годзе, гэта Жыровічы. У старых грашах мы маем на гэта 17 млрд. недэнамінаваных рублёў з рэспубліканскага бюджэту на завяршэнне рэканструкцыі трапезнай у манастыры.

У наступным годзе чакаюцца інвестыцыі ў прадпрыемствы будаўнічай галіны, дзе плануецца адкрыць 70 новых працоўных месцаў.

Плануем папоўніць наш бюджэт і за кошт рэалізацыі ў Слоніме аб`ектаў нерухомасці. Напрыклад, ёсць напрацоўкі па адкрыцці ў былым кінатэатры «Мір» дзіцячага кафэ. З польскім інвестарам ідуць перамовы пра адкрыццё ў вёсцы Пятралевічы-2 завода па зборцы сельскагаспадарчай тэхнікі для еўрапейскага рынку на базе былога цаглянага завода.

**— Прэзідэнт паставіў задачу ў наступным годзе дабіцца сярэдняга заробку па краіне 500 даляраў. Заробак на якіх слонімскіх прадпрыемствах Вас найбольш не задавальняе і як нам дасягнуць 500 даляраў заробку ў эквіваленце?**

— Задача сур`ёзная. Нам сёння патрэбна даць чалавеку магчымасць зарабіць гэтыя 500 даляраў. На «Белдане», напрыклад, людзі будуць зарабляць такія грошы. І туды будзе строгі адбор пры ўладкаванні на працу. А найменшыя заробкі ў нас сёння ў вёсцы. Там патрэбна мяняць арганізацыю працы і вытворчасці. Па 10 спецыялістаў і бухгалтараў у канторах сельгаспрадпрыемстваў не патрэбныя. А вось, напрыклад, малады механізатар з «Дружбы» Вераб`ёў сее на «Джондзіры» па 50-60 гектараў у дзень і зарабляе па 60-70 даляраў у эквіваленце... Грошы сёння патрэбна зарабіць, а не атрымаць. І па-іншаму ўжо не будзе. Кіраўнікі ўсіх узроўняў будуць працаваць на тое, каб стварыць слонімцам умовы для выканання даручэння кіраўніка дзяржавы.

**— Чаму райвыканкам дагэтуль не зацвердзіў новы расклад руху гарадскога транспарту, распрацаваны аўтапаркам?**

— Значыць, выйшла недзе нестыкоўка. Абяцаю, што ў бліжэйшыя дні гэтае пытанне, калі яно сапраўды ёсць, будзе разгледжана.

ПРАЦЯГ НА СТАР. 6

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

## Алег Таргонскі:

# «Як бы, можа, каму ні хацелася, але так, як было раней, ужо не будзе»

### Старшыня Слонімскага райвыканкама Алег Таргонскі пагутарыў з журналістамі мясцовых СМІ

ПРАЦЯГ. ПАЧАТАК НА СТАР. 5

**— Ці будзе ў 2017 годзе ў Слоніме ўсталяваны помнік Льву Сапегу? Калі так, то дзе?**

— Так, у наступным годзе помнік Льву Сапегу ў Слоніме будзе ўсталяваны. Верагодней за ўсё, у першай палове года на так званай «скавародцы». Там цэнтр горада, побач з тэатрам, думаю, гэта найбольш удалае месца для помніка.

**— Калі ў Альбярціне пабудуюць міні-ГЭС, ці будзе ў людзей доступ да вадаспаду на возеры?**

— Не, не думаю, што доступ да вадаспаду застанецца. Гэта пытанне бяспекі саміх людзей. У Альбярціне мы шчыльна працуем над аднаўленнем сядзібы Пуслоўскіх у рамках трансмежнага супрацоўніцтва, з дапамогай польскіх і літоўскіх інвестараў. Ужо ёсць праект на аднаўленне будынка.

**— Што будзе далей са слонімскай сінагогай?**

— Падчас візіту ў Ізраіль сёлета ў траўні мы дамовіліся з ізраільскім бокам пра сумеснае фінансаванне на аднаўленне сінагогі, дзе потым адкрыем музей яўрэйскай культуры. У 2017 годзе будзе стварацца праект па аднаўленні будынка. Сінагога знаходзіцца пад аховай дзяржавы як помнік архітэктуры, таму шмат патрэбна чаго ўзгадняць з Мінкультам падчас гэтай працы.

**— Ці будзе мець назву новая плошча?**

— Назву яна мець павінна. Мяркую, да Дня Перамогі вызначымся з назвай. Трэба выслухаць усе меркаванні і прапановы слонімцаў на гэты конт.

**— Што будзе з водным палацам у Слоніме?**

— Па праграме «Газпрам — дзецям» узвядзенне воднага палаца ў Слоніме застаецца ў сіле. Два аб`екты будуць будавацца ў краіне па гэтай праграме — у Сілічах і ў Слоніме. У наступным годзе чакаюцца перамовы і ўзгадненні па гэтай тэме паміж зацікаўленымі бакамі. Палац такі, на маю думку, у горадзе патрэбны. Але трэба разумець, што на яго будаўніцтва пойдзе нямала грошай і з раённага бюджэту, і на ўтрыманне потым. А цяпер у слонімцаў ёсць магчымасць наведваць басейн мясакамбіната, які пры неабходнасці можа працаваць да 24 гадзін. Але наведвальнасць яго гараджанамі не такая ўжо і вялікая.

**— Ці плануецца стаянка для аўтатранспарту на Школьнай вуліцы?**

— Не атрымалася ў гэтым годзе падступіцца да будаўніцтва стаянкі там. Але ў планах стаіць пабудова стаянкі. Я гэта пацвярджаю.

**— Чым Вы можаце ганарыцца за амаль трохгадовую працу на пасадзе старшыні Слонімскага райвыканкама?**

— Тым, што зроблена за гэтыя гады. А меркаваць вам, слонімцам... У свой час губернатар Краўцоў мяне падтрымаў, і мы правялі ў Слоніме «Дажынкі». А да гэтага Дом культуры абнавілі, спартыўную школу, школу мастацтваў на вуліцы Пушкіна, новую плошчу пабудавалі, цэнтр горада абнавіўся. Горад прыгажэе, шырыцца... Прызнаю, не ўсё атрымалася, што хацелася зрабіць. Але, паўтаруся, меркаваць пра маю працу вам.

Шчыра хачу павіншаваць усіх вас з Новым годам, пажадаць здароўя, шчасця і каб усе нашы задумы і планы здзейсніліся.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ФОТА З АРХІВА «ГС»



*Слонімская сінагога*

НАВІНЫ

# Жыровічы прызнаны цэнтрам турызму нацыянальнага значэння

Савет Міністраў 15 снежня зацвердзіў Генеральную схему размяшчэння зон і аб`ектаў аздараўлення, турызму і адпачынку Рэспублікі Беларусь на 2016-2020 гады і на перыяд да 2030 года.

Згодна з дакументам, Жыровічы вызначаны цэнтрам турызму і адпачынку нацыянальнага значэння, Слонім — цэнтрам турызму і адпачынку рэгіянальнага значэння.

У рамках Генеральнай схемы прапануюцца да аб`яўлення гістарычнымі паселішчамі 33 населеныя пункты нашай краіны, у тым ліку Слонім і Жыровічы.

Слонім, як і яшчэ 20 беларускіх населеных пунктаў, вызначаны цэнтрамі турызму і адпачынку рэгіянальнага значэння.

Цэнтрамі турызму і адпачынку нацыянальнага значэння вызначаны Жыровічы (усяго 16 населеных пунктаў Беларусі). Жыровічы з`яўляюцца цэнтрам рэлігійнага турызму.

У пералік турысцка-рэкрэацыйных тэрыторый Рэспублікі Беларусь — у турыстычныя зоны мясцовага значэння — увайшла турыстычная зона Слоніма.

У зоны адпачынку мясцовага значэння Лідскага ўнутрыабласнога рэгіёну ўключана зона «Дзераўная» і «Чамяры».

У пералік зон адпачынку, якія не адпавядаюць экалагічным і санітарна-эпідэміялагічным нормам і правілам і якія падлягаюць ліквідацыі, увайшла зона адпачынку мясцовага значэння «Іса».

*Жанна* **ІВАНОВА**

АЛЁ, МЫ СЛУХАЕМ ВАС

# Маці інваліда: «Сын такі шчаслівы быў — і мы разам з ім!»

*За некалькі дзён да Новага года ў рэдакцыю патэлефанавала сланімчанка Любоў Рубец і расказала пра падарунак, які зрабілі яе сыну-інваліду работнікі Слонімскага дзіцячага садка №6.*

— Я ведаю, што да вас у рэдакцыю людзі звычайна звяртаюцца, каб з вашай дапамогай вырашыць нейкую праблему. У нас з мужам таксама была праблема. Мы маем сына-інваліда, які ўвесь час жыве з намі дома. Хацелі зрабіць яму падарунак — заказаць на дом Дзеда Мароза і Снягурку, каб павіншавалі сына з Новым годам. Ды калі даведаліся пра кошты — 25-30 рублёў, зразумелі, што не зможам гэтага дазволіць. Мы з мужам пенсіянеры, атрымліваем невялікія пенсіі, каб заплаціць такія грошы. І так нам крыўдна стала! Але знаёмая параіла звярнуцца па Дзеда Мароза і Снягурку ў шосты садзік, маўляў, яны могуць бясплатна павіншаваць інваліда. Я так і зрабіла. Загадчыца садка, Валянціна Іванаўна, зразумела наша становішча і пайшла нам насустрач. Прыйшлі да нас Дзед Мароз са Снягуркай, павіншавалі сына, карагоды з ім павадзілі каля ёлкі і падарункі яшчэ падарылі... Сын такі шчаслівы быў — і мы раз з ім! І нічога, ведаеце, ні капейкі з нас не ўзялі. Я вельмі ўдзячная загадчыцы садка і супрацоўнікам, якія падарылі свята нашаму дзіцяці. Напішыце, калі ласка, пра гэта ў газеце, — праз слёзы расказвала і прасіла Любоў Іванаўна.

Свет, як бачым, не без добрых людзей. Дык спяшаймася рабіць дабро! Тым больш перад Калядамі. Дабро, як вядома, вяртаецца шматкроць.

**Мікола КАНАНОВІЧ**


Тэлефоны рэдакцыі:
т/факс: 8 (01562) 29-999,
Тэл. 6-36-58, 6-36-68, 6-36-54, 6-36-44.
Velcom: 8-029-133-04-21



ПРАГРАМА TV
ад "Газеты Слонімскай"
9 — 15 января














# Всё ненужное вон

*Астролог: В год Огненного Петуха важно отказаться от того, что отжило и требует замены*



2017 год будет удачным для сильных и решительных сторонников перемен.

В 2017 году экономическая ситуация в Беларуси будет ухудшаться, рубль упадет, прогнозирует белорусский астролог **Владимир Васюк**.

*«Очень неблагоприятное положение планет в гороскопе нашего государства сформирует не лучшие тенденции в экономической и политической жизни страны во второй половине февраля — первой половине марта, а также в первой половине мая 2017 года»*, — рассказал Васюк БелаПАН.

По его словам, хорошо сможет заработать тот, кто умеет соизмерять свои возможности и способности. *«Необоснованный оптимизм в этом году будет не в моде»*, — заметил астролог.

Существенно возрастут риски инвестиций. По словам Васюка, инвестировать в бизнес следует, исходя из минимально возможных ожиданий отдачи.

Белорусский рубль будет падать по отношению ко всем валютам, за исключением российского рубля, прогнозирует астролог. Для России, по словам Васюка, 2017 год будет аналогичен 1998-му, *«когда цикл затмений, аналогичный тем, которые пройдут в 2017 году, породил дефолт со всеми вытекающими отсюда последствиями»*.

Тем временем мировая экономика будет очень медленно расти. *«В годы Петуха конъюнктура мировых валютных и фондовых рынков обычно достигает своих исторических экстремальных значений для того, чтобы в последующие годы измениться на противоположную»*, — отметил астролог.

По словам Васюка, в годы, аналогичные наступившему, чувствовать себя слабым небезопасно. *«Если страна или политическая сила позиционирует себя как слабая, правила игры и условия противостояния навязывает сильнейший. До тех пор, пока сильнейший не определен, а противоборствующие политические силы демонстрируют готовность отстаивать свои интересы, наблюдается шаткое, способное в любой момент нарушиться равновесие. Поэтому 2017 год будет периодом хрупкого динамического равновесия, а не статического мира»*, — говорит астролог.

Что касается природных катаклизмов, то, по его прогнозам, в зону риска попадают южные регионы Беларуси, расположенные на оси городов Брест — Пинск — Мозырь — Гомель. Здесь активные движения воздушных масс будут провоцировать сильные ветра, штормоподобные явления со всеми вытекающими отсюда последствиями.

**БелаПАН**





# ГОРОСКОП

**НА НЕДЕЛЮ** *2 — 8 января* www.ignio.com




**Н**а этой неделе с заоблачных высот придется спуститься хотя бы на одну ступень. Чем ближе к земным делам вы будете, тем больше у вас шансов на успех в реальности, а не в воображении. Будьте прагматичны. И не стоит опасаться, что кто-то назовет вас меркантильным — это от зависти. В семейном споре не стоит занимать активную позицию, лучше вообще постараться от него уйти. В четверг не избегайте общения, так как любые контакты будут благоприятны для вас. В пятницу может воплотиться в жизнь ваше давнишнее желание. Избегайте действий из альтруистических побуждений - спасибо вам не скажут.




**Д**ля вас сейчас один из самых волнующих вопросов — это вопрос карьеры. Однако в эти дни вам нужно посвятить побольше времени семье. А наедине с собой вам необходимо определить, чего вы хотите от жизни. Постарайтесь изменить систему ценностей, и вы увидите, как изменится ваше восприятие мира. Постарайтесь помогать окружающим, но не взваливайте все проблемы на себя. Блесните своим очарованием в дружеской компании. Посетите интересную выставку, которая позволит обогатиться новыми впечатлениями.




**В**аши решительность и активность позволят осуществиться большей части ваших планов и замыслов. Одна из важнейших задач на этой неделе — это налаживание перспективных партнерских отношений в любви, работе и творчестве. У вас хватит запала и энергии поддерживать и координировать действия партнеров. Путешествия обещают быть приятными, впечатлений и знакомств будет немало. Постарайтесь не планировать ничего серьезного на среду, этот день продет под знаком легкомыслия. Вторая половина недели обещает веселье и праздничное настроение.




**Н**еплохо складывающиеся деловые отношения могут неожиданно перейти в другую плоскость. Однако остерегайтесь служебных романов, они могут испортить вашу карьеру. Не исключено, что какой-то проект вам придется начинать с начала. Желательно пересмотреть свой стиль поведения, возможно — сменить свой имидж. Постарайтесь быть адекватны ситуации. Четверг — самый плодотворный день недели, когда можно сделать намного больше, чем запланировано.




**Н**а этой неделе вам предстоит сделать немало: вместо рабочих проблем появятся домашние, вы будете буквально нарасхват. Но чтобы в такой ситуации не оказаться в состоянии выжатого лимона, постарайтесь придерживаться философских взглядов на происходящее. В среду будьте осторожны, опасайтесь интриг и подлости.




**Н**а этой неделе, помогая другим людям, вы поймете, как лучше справиться со своими проблемами. Появится возможность отправиться в небольшую поездку, кого-то навестить, с кем-то встретиться. В среду при общении с родственниками могут возникнуть неожиданные ситуации, которые повлекут совсем нешаблонные действия с вашей стороны. Ваши советы, данные близким людям, будут весьма своевременны и могут помочь им улучшить состояние своего здоровья.




**Н**а этой неделе вы можете стать заметной фигурой в обществе. Ваши ум, чувство юмора и опыт будут полезны вашему окружению. Только не стоит слишком задирать нос и выглядеть высокомерно. Встречу с друзьями лучше запланировать на среду или пятницу, а субботу или воскресенье рекомендуется провести за городом вместе с семьей.




**Х**орошее время! Забудьте, наконец, о рабочих проблемах. Сейчас нужно отдохнуть и набраться сил. Все дела лучше отложить. Имейте в виду, что очень многое из того, что вы пожелаете на этой неделе, может сбыться, так что стоит быть осторожнее в своих желаниях. Или хотя бы следить за четкостью формулировок. Учитесь совмещать старое и новое, отбрасывая все лишнее. Четверг лучше провести дома, посвятив его бытовым проблемам. В пятницу вы можете прекрасно повеселиться на дружеской вечеринке, за городом, где вы почувствуете себя душой компании.




**Н**а этой неделе о себе активно и ярко может заявить дар предвидения, вам в эти дни может открыться то, что не один оракул не сможет предсказать. Доверяйте своей интуиции. Понедельник и вторник могут быть посвящены непродолжительным, но важным мероприятиям. В пятницу вероятно знакомство с людьми, которым будут интересны ваши проблемы. В воскресенье будет важным сохранять хладнокровие и выдержку и не поддаваться на провокации со стороны, которых может оказаться в избытке.




**Н**а этой неделе самой важной задачей будет обретение влиятельных связей и получение достоверной информации. В понедельник лучше заняться завершением незаконченных дел, особенно мелких. Во вторник отправляйтесь на лыжную прогулку, сводите детей в кино или в цирк. В пятницу не доверяйте случайным знакомствам и будьте осторожны при общении с давно знакомыми людьми, в этот день есть вероятность разрыва отношений и ссоры.




**Н**а этой неделе вас ожидают интересные культурные события. Уловите направление ветра перемен, чтобы максимально воспользоваться благоприятными возможностями. Сохраняйте честность в отношениях, и тогда никакие слухи не смогут повредить вам. Во вторник вы можете почувствовать, что накопившиеся дела не терпят отлагательства. Четко спланируйте этот день: тогда вам удастся сделать все, что необходимо. В середине недели ваш разумный компромисс по отношению к деловым партнерам может принести неожиданную прибыль.




**Н**еделя способствует подведению некоторых итогов. Не сожалейте об утраченных возможностях, вполне вероятно, что вы просто неверно оцениваете ситуацию. Изменить прошлое вы можете, только изменив к нему свое отношение. Прислушайтесь к внутреннему голосу. Уделите побольше внимания детям, им необходим ваш совет. Отправляйтесь всей семьей на каток.

